9 красавіка 1999 г. пятніца

# НАВІНЫ

№39 (570) кошт свабодны




# Тамара Віннікава «пайшла і не вярнулася»

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

**Усе беларускія спецслужбы і праваахоўныя органы паднятыя на ногі. Другі дзень шукаюць былую старшыню Нацбанка Тамару Віннікаву. Па звестках, пацверджаных у Савеце бяспекі, увечары 7 красавіка Віннікава знікла са сваёй кватэры, дзе яна ўтрымлівалася пад хатнім арыштам. Як былой банкіршы ўдалося ўцячы, і ўвогуле, уцёкі гэта ці нешта іншае, пакуль невядома.**

У сталіцы шум вакол знікнення Віннікавай падняўся раніцай 8 красавіка. У 9 гадзінаў міліцыяй была затрыманая і адвезеная ў пракуратуру краіны адвакат Людміла Ульяшына, якая аказвала Віннікавай юрыдычную дапамогу. Допыт адвакаткі працягваўся да сярэдзіны дня, пасля чаго следчыя забралі яе на вобыск у юрыдычнай кансультацыі. Па звестках, пракуратурай узбуджаная крымінальная справа па факце парушэння Тамарай Віннікавай падпіскі аб нявыездзе.

Нагадаем, што былая старшыня Нацбанка Беларусі Тамара Віннікава была арыштаваная ў пачатку 1997 года па падазрэнні ў крадзяжы дзяржаўнай маёмасці і службовых злоўжываннях. Спачатку Віннікава ўтрымлівалася ў ізалятары КДБ – «амерыканцы», а з канца 1997 года фактычна знаходзілася пад хатнім арыштам у сваёй кватэры па вуліцы Адзінцова. Яе дзень і ноч «ахоўвалі» адразу некалькі супрацоўнікаў спецслужбаў, усе кантакты Віннікавай пільна адсочваліся. У прэсу неаднаразова прасочваліся звесткі, што Віннікава вельмі хворая, сцвярджалася, што ёй патрэбная тэрміновая аперацыя. Апошнія два месяцы яна сапраўды правяла ў вайсковым шпіталі, адкуль выпісалася 4 дні таму. Якраз напярэдадні ў «Белорусской деловой газете» было апублікаванае фактычна першае пасля арышту інтэрв'ю Віннікавай журналісту Аляксандру Фядуце. У гэтым інтэрв'ю былая банкірка шмат казала пра нейкага вельмі ўплывовага чалавека з атачэння прэзідэнта, які, на яе думку, і стаў галоўнай прычынай яе бедаў. Гэты чалавек, па словах Віннікавай, пасля яе арышту значна абагаціўся. Не выключана, што знікненне Віннікавай неяк звязанае з яе смелай заявай у бок свайго «нядобразычліўца».



Але што сапраўды адбылося з Тамарай Віннікавай, пакуль невядома. Нават кіраўнік прэс-службы Савета бяспекі ведае толькі, што яна «пайшла з дому і не вярнулася». Так спадар Плотнікаў заявіў НАВІНАМ, яшчэ не маючы іншай інфармацыі з пракуратуры. ■




# Апошняе шэсце Карпенкі

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

**Учора адбылося пахаванне Генадзя Карпенкі. Тысячы людзей прыйшлі развітацца з Генадзем Дзмітрыевічам. Мінск не памятае такой колькасці народа з часоў пахавання Пятра Машэрава.**

А 10-й гадзіне пачалася цырымонія развітання з вядомым палітыкам. Зала Акадэміі навук, дзе стаяла труна з целам нябожчыка, танула ў кветках. У грамадзянскай паніхідзе ўдзельнічалі дэпутаты Вярхоўнага Савета 13-га склікання, прадстаўнікі палітычных партыяў, грамадскіх арганізацыяў, супрацоўнікі Акадэміі навук, а таксама замежныя дыпламаты. Многа для каго пры жыцці ён з'яўляўся палітычным апанентам.

Словы смутку і памяці пра Генадзя Дзмітрыевіча сказалі вядомы паэт Генадзь Бураўкін, былы спікер парламента Мечыслаў Грыб, віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук Беларусі Пётр Віцязь ды іншыя блізка знаёмыя з нябожчыкам людзі. Пасля жалобная працэсія рушыла ў накірунку да Маскоўскіх могілак, дзе адбылося пахаванне.

Як паведамілі нам сябры грамадскай камісіі па пахаванні, з самага пачатку сваёй дзейнасці яны сутыкнуліся з вельмі непрыхільным стаўленнем з боку чыноўнікаў. Напрыклад, кіраўніцтва Акадэміі навук спачатку адмовілася прадастаўляць сваю канферэнц-залу для правядзення грамадзянскай паніхіды, а адміністрацыя Маскоўскіх могілак не хацела без санкцыі зверху даваць месца для пахавання. Прычым свае бязглуздыя дзеянні «акадэмічныя» чыноўнікі апраўдвалі вельмі цынічным спосабам. Маўляў, памяшканне для паніхіды мы прадастаўляем памерлым акадэмікам, а нябожчык быў толькі членкарам і г.д. Вырашаць гэтыя праблемы сябрам камісіі прыйшлося на ўзроўні прэзідэнцкай адміністрацыі. Дарэчы, гэтую звычайную чалавечую просьбу Лукашэнка адразу ж выкарыстаў супраць апазіцыі: выступаючы ў сераду перад «палатачнымі» дэпутатамі, прэзідэнт заявіў, што Карпенка быў патрэбны апазіцыі толькі жывы, а цяпер, маўляў, яны перакладваюць клопаты з пахаваннем на прэзідэнта.


Фота IREX/ProMedia

Кожны развітваецца з нябожчыкам адпаведна свайму характару, культуры, выхаванню. Мала знойдзецца людзей, якія хвіліну агульнага смутку скарыстоўваюць, каб пахваліць сябе. ■

## Гарачая лінія

### Аляксандр Лукашэнка — 100 дзён да дэмбеля

**З 10 красавіка застанецца 100 дзён да сканчэння прэзідэнцкіх паўнамоцтваў Аляксандра Лукашэнкі.**

Прэзідэнт прыняў прысягу на Канстытуцыі і заняў пасаду 20 ліпеня 1994 года, тэрмінам на пяць гадоў. Сам прэзідэнт, як вядома, не прызнае скончэння сваіх паўнамоцтваў, спасылаючыся на прынятую на рэферэндуме 1996 года новую рэдакцыю канстытуцыі, і збіраецца яшчэ два з паловай гады заставацца на пасадзе. Між тым, трэба адзначыць, што пытанне аб працягу тэрміну паўнамоцтваў не выносілася ў якасці асобнага на рэферэндум і не абмяркоўвалася Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь. Такім чынам, пасля 20 ліпеня прэзідэнт А.Лукашэнка страчвае легітымнасць і павінен пакінуць сваю пасаду.

*Аляксей ШЫДЛОЎСКІ*

### Прызначаны новы пасол Вялікабрытаніі

**У красавіку ў Мінск прыбудзе новы Пасол Яе Вялікасці Каралевы Вялікабрытаніі.**

Замест Джэсікі Пірс, якая атрымае новае дыпламатычнае прызначэнне, пасылам прызначаны Іян Келі. Іяну Чарльзу Келі споўнілася 50 гадоў. Ён працаваў у Лондане, Маскве, Стамбуле, Лос-Анджэлесе. З 1996 па 1998 год быў генеральным консулам Вялікабрытаніі ў Амстэрдаме. Іян Келі жанаты, мае двух сыноў.

### Страйк у нябёсах

**Па звестках з Баранавічаў, у мінулы аўторак лётчыкі дзвюх эскадрылляў Баранавіцкай авіябазы адмовіліся падымацца ў паветра.**

Яны пратэстуюць супраць пастановы ўрада №13, згодна з якой паявілічаны мінімальны ўзрост выхаду на пенсію для людзей у пагонах. Як сведчыць нашая крыніца з Баранавічаў, «дабіў» лётчыкаў менавіта гэты дакумент. На пенсію ў паветраных войсках сыходзілі звычайна ў 30–35 гадоў, а цяпер прыйдзецца чакаць да 40. Які сэнс столькі часу цягнуць лямку пры заробку ў 50 долараў і нават без кватэры! Большасць баранавіцкіх лётчыкаў жылля не мае. Лётчыкі вырашылі страйкаваць такім чынам, каб да іх не прычапіліся: маўляў, не лятаем з-за няважнага стану здароўя або настрой дрэнны і г.д. Па звестках, пакуль супраць забастоўшчыкаў не прынята ніякіх мераў. Кажуць, што ў міністэрстве абароны ўжо праведзена нарада, у Баранавічы накіравалася камісія. Не выключана, што камісіі давядзецца адправіць і на іншыя авіябазы: баранавіцкіх пілотаў гатовыя падтрымаць калегі з Бярозы, Ліды і Ваўкавыска. Пакуль прэс-служба міністэрства абароны не пацвярджае, але і не абвяргае звесткі з Баранавічаў.

*Алесь ПАЎЛОВІЧ*

ПЯТНІЦА З МІКАЛАЕМ ХАЛЕЗІНЫМ

## SEXтанты

Проснулся утром, открыл глаза и позавидовал себе - в высокоморальной стране живу, ни тебе сексуальных революций, ни позорных происшествий с политиками. Вон на диком Западе дела страшные творятся - президент практикантку спортил. Или она его? Нет, вроде он ее. Воспользовался служебным положением.

У нас, слава Богу, такого быть не может. Во-первых, у нас вождь честный. Откуда знаю, что честный? Да он сам говорил. А во-вторых, наш с охраной живет. Даже жену с малой родины забирать не стал, чтоб никто не подумал, что он **этим** делом занимается вместо исполнения профессионального долга. И правильно. За то ему наш почет и уважение.

Или вот еще история. Это уже на востоке. Министра юстиции застукали с девками в бане. Шуму было... Не шутки ведь - баня-то не общественная была, а «солнцевская».

Но это тоже, к счастью, не про нас. У нас никаких «солнцевских» бань нету, да и министра юстиции практически никто ни в лицо, ни по фамилии не знает. Поэтому пусть моется где захочет. Если время есть. Но, я думаю, на мытье у него времени не остается, потому как работы невпроворот - надо следить, чтобы ситуация с условиями содержания в тюрьмах не улучшалась и преступникам с подследственными жизнь медом не казалась.

А про последний скандал слыхали? Тоже у братьев наших восточных. С которыми мы перманентно единяемся. У них там мужик, похожий как две капли воды на генерального прокурора, с девками, похожими на проституток, удачно в кино снялся. Аккурат к вручению Оскара подгадал. Правда, приз киноакадемии не получил даже за роль второго плана. Зато фильм был номинирован за лучшую операторскую работу.

Вот это у нас быть могло. В смысле - Оскар за лучшую операторскую работу. У нас столько талантливых ребят в штатском во время шествий оппозиции демонстрантов снимают... А вот с девушками навряд ли. У нас нет человека, похожего на генерального прокурора. А настоящий генеральный такой, что по девкам навряд ли пойдет. Да и девки по нему тоже.

В общем, проснулся радостный и гордый за свою страну. Умылся. Открыл холодильник, посмотрел внутрь и подумал про нынешнюю власть: да пошли вы в баню!

# Геі і праваслаўная царква маюць намер вызначыць адносіны

**Язэп СІНІЦКІ**

Актывісты свабодных сексуальных меншасцяў «Лямбда» падалі ў Мінгарвыканкам заяўку на правядзенне 19 красавіка пікета каля будынка епархіяльнага ўпраўлення Праваслаўнай царквы. Беларускія геі і лесбіянкі абураныя «непрыхавана гамафобнымі і фашысцкімі» выказваннямі некаторых афіцыйных прадстаўнікоў праваслаўнай царквы.

Прычынай пратэсту секс-меншасцяў стала праведзеная нядаўна ў Мінску канферэнцыя пад назваю «Згубныя наступствы міжнародных праектаў палавога выхавання». Яе арганізатарамі выступілі Беларускі экзархат і факультэт тэалогіі Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта. Па словах старшыні лігі Эдварда Тарлецкага, некаторыя ўдзельнікі канферэнцыі заклікалі караць геяў і лесбіянак смерцю на электрычным крэсле. Прадстаўнікі лігі «Лямбда» таксама сцвярджаюць, што на канферэнцыі былі вызначаныя і «ворагі маральнага здароўя беларусаў». У іх лік трапілі Сусветная арганізацыя аховы здароўя, ЮНЕСКА і ААН, якія ўжо даўно займаюцца праектамі палавога выхавання моладзі і прафілактыкі СНІДу. «Нам, канешне, было дзіўна чуць заклікі да забойства з вуснаў праваслаўных святароў, але яшчэ больш здзівіла пазіцыя кіраўніцтва гуманітарнага універсітэта, якое ніяк не асудзіла гэтую фашысцкую прапаганду», — сказаў сп.Тарлецкі. Калі ў самы бліжэйшы час адміністрацыя ЕГУ не дасць сваёй ацэнкі ксенафобскім выступам удзельнікаў канферэнцыі, якая праходзіла ў сценах універсітэта, актывісты лігі збіраюцца звярнуцца да міжнародных фондаў з просьбай перагледзець адносіны з гэтай навучальнай установай.

Лідэр беларускіх геяў і лесбіянак Эдвард Тарлецкі сцвярджае, што яго арганізацыя не ёсць антыправаслаўная. Яна толькі пратэстуе супраць гвалтоўнага навязвання афіцыйнымі прадстаўнікамі праваслаўя грамадству і дзяржаве сваіх уяўленняў аб маральнасці. ■

## Тракторный завод потерял миллионы

**Вика ТУРОВА**

Минский тракторный завод приостановил поставку своей продукции в Югославию. Поставки прекращены по настоятельным просьбам югославской стороны — нет никакой гарантии, что ценный груз не накроют ракетами. При благоприятных условиях МТЗ рассчитывал поставлять в СРЮ по 40—50 тракторов ежемесячно. Теперь о предполагаемой выручке в 3,5 млн. долларов можно забыть до окончания военных действий. В это же время на складах концерна «Белресурсы» полным ходом идет загрузка двух МАЗов 40 тоннами гуманитарной помощи югославскому народу. Два белорусских грузовика присоединились в четверг к российской автоколонне из 74 машин. Автоколонну до пункта назначения будет сопровождать лично товарищ Кучинский, и уже в конце апреля Беларусь намерена самостоятельно отправить 80 МАЗов с гуманитарным грузом, превышающим нынешний российский в 1,5 раза. ■

РЕПОРТАЖ В НОМЕР

# Тайна 4 миллионов яиц

**Наталья РАДИНА**

**По данным министерства статистики, в Республике Беларусь сегодня функционирует 60 птицефабрик. Каждый день птицефабрики производят 5,2 миллиона яиц. Из них 20 процентов расходуется на инкубацию. Остальные идут на продажу населению. Это 4 миллиона 340 тысяч штук! Однако вот уже который месяц яйца в магазинах отсутствуют, и сегодня эта проблема ощущается крайне остро—приближается Пасха.**

Корреспондент НАВІНАЎ заглянул в магазин «Золотое яйка». Продавцы сообщили, что яйца бывают в продаже редко, с интервалом в несколько недель. В момент появления в магазине яиц «Золатое яйка», как и все остальные подобные торговые точки, напоминает общественный транспорт в «час пик». Дефицитный товар исчезает мгновенно. Хотя при каждом появлении яиц их цена меняется по возрастающей, это не сдерживает потребителя — лишь бы купить.

Следующим объектом нашего внимания стала минская птицефабрика им. Н. Крупской, которой и принадлежит вышеуказанный магазин. На фабрике объяснили, что куры у них на предприятии здоровые и активно несутся. Однако распределением партий ценного продукта по торговым точкам занимается управление потребительским рынком при Мингорисполкоме. В свою очередь в Мингорисполкоме сослались на то, что сейчас ими проводится важная акция «на пользу общества» — накопление яиц к Пасхе. Сколько ж накопится яиц, если их «копят» месяцами, учитывая, что в день государство имеет более 4 миллионов штук?

Как стало известно, в стране все же существуют торговые точки, где яйца есть постоянно. Только не спешите туда бежать, так как это специализированные продуктовые магазины, где по рецепту выдают необходимые для вашей диеты продукты. В том числе и яйца. А более или менее здоровым людям без рецепта остается приобретать яйца на рынках, где цены на них колеблются от 150 до 210 тысяч рублей.

Официальные власти утаивают от народа информацию, куда исчезают яйца, ссылаясь на набивший оскомину «ажиотажный спрос». Только откуда она взялась, эта резкая необходимость закупать не один десяток яиц, а брать их по полсотни? Опять же из их нерегулярного присутствия в магазинах.

Народ тем временем сам ищет ответы. Из уст в уста распространяется информация, что поставками продуктов питания, в том числе и яиц, правительство рассчитывается с Россией за газ. Однако в Московском департаменте продовольственного рынка нам сообщили, что потребности в белорусских яйцах не существует. В России достаточное количество птицефабрик, которые регулярно поставляют яйца на прилавки российских магазинов, и сегодня это самый дешевый продукт в России. Получается, что белорусские яйца бесследно исчезают каким-то таинственным образом.

Мы решили узнать, как же выкручиваются из этой ситуации простые граждане.

**Михаил Петрович, пенсионер:**

*«Яйца у меня сегодня, как деликатес—жена экономит. Купил в воскресенье на выборном участке два десятка—приберегу на Пасху. Какая ж Пасха без яиц?»*

**Анна Сергеевна, пенсионерка:**

*«А мы купили сегодня к Пасхе яйца. Сегодня у нас в магазине давали, и весь район ходил с яйцами. Появляются они раз в месяц, и потому мы с мужем взяли четыре десятка. А ведь раньше брали только один...»*



**Елена Александровна, госслужащая:**

*« Вы знаете, я живу в районе магазина «Златое яйка», и каждое утро с 7 утра мои соседи становятся у него в очередь. К открытию магазина очередь либо рассасывается, либо остается, в зависимости от того, дают ли яйца. Так вот, я яиц еще не купила».*

Яичная проблема превратилась в народную забаву. И, похоже, если яиц не будет совсем, мы научимся нестись сами. ■

## ЦЫТАТА ДНЯ

*Мы живем в одном доме. Он очень мал и тесен для нас – это наш дом Европа.*

*А.Лукашенко*

*(Из выступления перед Национальным собранием 7.04.1999г.)*

## Камерцыйныя банкі накіравалі на крэдытаванне сяла 8,7 трыльёна рублёў

**БелаПАН**

Камерцыйныя банкі на цяперашні момант накіравалі на крэдытаванне сельскагаспадарчага комплексу рэспублікі 8,7 трыльёна рублёў за кошт уласных сродкаў. У адпаведнасці з планам, да 15 красавіка г.г. банкі павінны прадаставіць на крэдытаванне аграпрамысловага комплексу рэспублікі за кошт уласных рэсурсаў 11 трыльёнаў 50 мільярдаў рублёў.

Паведамляецца, што да 15 ліпеня бягучага года беларускія банкі павінны адшукаць яшчэ 9 трыльёнаў рублёў, прызначаных для авансавання закупак сельскагаспадарчай прадукцыі. Зыходзячы з гэтага, агульная сума банкаўскіх сродкаў, накіраваных на крэдытаванне сельскай гаспадаркі, складзе 20 трыльёнаў рублёў. ■

## Вярнуў грошы — атрымай амністыю

**БелаПАН**

Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі адобрыла адразу ў двух чытаннях папраўкі ў закон «Аб амністыі некаторых катэгорыяў асоб, якія ўчынілі злачынствы».

Нагадаем, што сам закон быў падпісаны і ўступіў у сілу яшчэ 18 студзеня 1999 года. Неабходнасць прыняцця паправаў выкліканая тым, што пры падпісанні дадзенага заканадаўчага акта прэзідэнт вярнуў у Палату прадстаўнікоў асобныя яго палажэнні са сваімі пярэчаннямі. У прыватнасці, не адобранае прэзідэнтам палажэнне аб прымяненні амністыі для асоб, якія ўчынілі эканамічныя злачынствы і не пакрылі поўнасцю нанесеныя матэрыяльныя ўрон. Размова ідзе аб злачынствах у сферы прадпрымальніцтва і іншай гаспадарчай дзейнасці. Да іх, у прыватнасці, адносяцца ілжэпрадпрымальніцтва, выманьване крэдытаў альбо датацыяў, ілжывае банкрутства, спекуляцыі, заняткі забароненымі відамі прадпрымальніцтва, утойванне альбо заніжэнне даходаў, парушэнне ўстаноўленага парадку правядзення валютных аперацыяў, а таксама незаконнае адкрыццё рахункаў за межамі Рэспублікі Беларусь. У адпаведнасці з папраўкай, вызваленне грамадзянаў, якія адбываюць пакаранне па дадзеных артыкулах, звязана з поўнай выплатай імі прычыненнага матэрыяльнага ўрону.

Паводле інфармацыі МУС, цяперашнім часам у месцах пазбаўлення волі адбываюць пакаранне 206 чалавек, якія могуць быць амніставаныя адразу пасля ўступлення ў сілу згаданай папраўкі ў выпадку пакрыцця імі ўрону. ■

## Камсамольцы жадаюць «паваяваць» з NATO

**БелаПАН**

Выказваючы сваю салідарнасць з народамі Югаславіі, камсамольцы Цэнтральнага Камітэта Ленінскага камуністычнага саюза моладзі Беларусі заклікалі жыхароў Беларусі абвясціць байкот таварам, выробленым у краінах агрэсіўнага ваеннага блока. Сакратарыят ЦК ЛКСМБ таксама заклікае беларускага тэлегледача адмовіцца ад прагляду кінавідэапрадукцыі, выробленай у краінах Паўночнаатлантычнага дагавора; банкаўскія структуры — не крэдытаваць прадпрыемствы, створаныя з удзелам капіталу краінаў NATO; камп'ютэрных хакераў — абвясціць бязлітасную інфармацыйную вайну натаўскім злачынцам у сетках глабальнай камунікацыйнай сеткі Інтэрнэт. ■

## Выйдет ли Чигирь?

**Никита ПИГУЛЬ**

Завтра, 10 апреля, в 12.30 заканчивается срок десятисуточного ареста кандидата в президенты Республики Беларусь Михаила Чигиря.

К этому времени прокуратура обязана предъявить ему обвинение, несовместимое с пребыванием на воле, или выпустить из-под стражи и наказать тех, кто арестовал Чигиря. Однако последнее маловероятно. За все время за незаконный арест граждан ни одно должностное лицо не привлечено к ответственности. По словам Ю.Чигирь, полковник Лавренюк сообщил ей, что даже если не будет доказано хищение, Чигирь будет сидеть за халатность или за превышение служебных полномочий. ■

## У свеце старых больш за маладых

**Аддзел інфармацыі**

Сёння ў свеце налічваецца 580 мільёнаў чалавек ва ўзросце старэй за 60 гадоў.

Праз пяцьдзесят гадоў доля састарэлых людзей у свеце перавысіць колькасць моладзі. Такія дадзеныя прыводзяцца ў пасланні Генеральнага сакратара ААН Кофі Анана з нагоды Сусветнага дня здароўя, які адзначаўся 7 красавіка. Сёлета гэты дзень праходзіў пад дэвізам «Актыўны лад жыцця – для пажылых». ■

# Антызахадныя красамоўствы прэзідэнта

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

Ну не можа беларускі прэзідэнт спакойна жыць без пастаяннага нагнятання істэрыі і выкрыцця ворагаў, якія замінаюць Беларусі ісці па шляху ў светлую будучыню. Пацверджаннем гэтай думкі стала спецыяльнае штогадовае пасланне, зачытанае Лукашэнкам у сераду перад дэпутатамі абедзвюх палатаў ягонага парламента.

Кола прэзідэнцкіх ворагаў на гэты раз істотна не пашырылася. Усё той жа Захад, апазіцыя, чыноўнікі-жулікі ды расійскае кіраўніцтва. Адзінае адрозненне ад падобных жа пасланняў мінулых гадоў заключалася ў вельмі жорсткіх нападках Лукашэнкі на паслоў заходніх краінаў, акрэдытаваных у Мінску. Спачатку прэзідэнт иываліў усю сваю крыўду на Барыса Ельцына. На апошнім саміце СНД прэзідэнты краінаў Садружнасці адмовіліся падпісаць прапанаваную Лукашэнкам заяву з асуджэннем агрэсіі NATO супраць Югаславіі. Па словах Лукашэнкі, адбылося гэта таму, што Ельцын нібыта «адышоў ад папярэдне ўзгодненых дамоўленасцяў». Праўда, усенароднаабраны не патлумачыў публіцы, якім чынам расійскі прэзідэнт мог прымусіць астатніх сваіх калегаў па СНД падпісаць тое, чаго яны рабіць не жадаюць.

Моцна «наязджаў» Лукашэнка і на маскоўскую палітычную эліту, якая тармозіць працэс аб'яднання дзвюх краінаў.Такія абвінавачванні і раней выглядалі не зусім пераканаўча, а цяпер тым больш. Ва ўладзе ж у Расіі знаходзяцца стопрацэнтныя «патрыёты-дзяржаўнікі» — Прымакоў, Маслюкоў і іншыя. Здавалася б, каму, як не ім, правесці хутчэйшае аб'яднанне дзяржаваў, але ж не спяшаюцца. Як не будуць спяшацца і любыя іншыя камуністы, нацыяналісты ці дэмакраты, бо для Масквы непрымальныя ўмовы, на якіх жадае аб'ядноўвацца Лукашэнка. Не ідзе інтэграцыя і ў эканоміцы. Па словах Лукашэнкі, падпісаная раней дамова аб роўных варунках гаспадарання выконваецца толькі напалову, а «Газпром» не жадае браць беларускія тавары замест рэальных грошай па запазычанасцях. Значыць, можна чакаць, што хутка ведамства Рэма Вяхірава закруціць газавы кран мацней. Але больш упэўнена Лукашэнка сябе адчуваў, калі абрынуўся з абвінавачваннямі на Захад. Спачатку ён злёгку прайшоўся па Міжнародным валютным фондзе і па «сусветным жандарме» — ЗША, а пасля накінуўся на прысутных у Авальнай зале заходнееўрапейскіх амбасадараў.

Па словах прэзідэнта, заходнія краіны цалкам фінансуюць беларускую апазіцыю, якая на гэтыя грошы закупляе зброю, а таксама спрабуюць арганізаваць сепаратысцкія рухі палякаў і ўкраінцаў у заходніх рэгіёнах краіны. Прычым доказамі абвінавачванняў Лукашэнка сябе асабліва не абцяжарваў. Ён толькі даручыў старшыні дзяржтэлерадыё Р.Кісялю паказаць па TV нейкі «сакрэтны дакумент-кампрамат» на апазіцыю.

Прэзідэнт так разышоўся, што ад абвінавачванняў перайшоў да прамых пагрозаў у бок Захаду. «На кожны ваш рух каля нашых межаў у Літве ці Польшчы будзе дадзены адэкватны адказ, мы вам не Югаславія, мы будзем сябе бараніць», — крычаў Лукашэнка. Склалася такое ўражанне, што прэзідэнт спецыяльна правакаваў паслоў. Маўляў, глядзіце, які я смелы, вас не баюся і магу гаварыць усё, што хачу. Наўрад ці ён хацеў раздзьмуць новы скандал накшталт «драздоўскага», але паказаць Еўропе і Амерыцы, хто ў беларускай хаце гаспадар і хто трымае руку на пульсе, Лукашэнку яўна хацелася. Прэзідэнт у гэты момант, відаць, любаваўся сабою, маўляў, во які я красамоўны. Шкада, што яшчэ ў дзяцінстве ніхто не патлумачыў Аляксандру Рыгоравічу, што падобныя паводзіны ў прыстойнай кампаніі лічацца звычайным хамствам.

На злобные выпады президента в адрес западных стран оперативно отреагировала Польша. Пресс-секретарь МИД Польши Павел Добровольский заявил: «Президент Лукашенко имеет тенденцию высказываться о международной политике исключительно для внутренних целей. У него никогда не было никаких оснований для таких заявлений. Так же и теперь. Беларуси со стороны Польши абсолютно ничего не грозит». ■

# Компания поедет на кампанию

## В этом году к весеннему севу планируется привлекать бизнесменов

**Константин СКУРАТОВИЧ**

На днях Совмин принял постановление «О привлечении граждан к сельскохозяйственным работам в 1999 году». Что в этой связи требуется? Органы госуправления должны обеспечить направление в колхозы, совхозы и другие сельхозпредприятия работников промышленных предприятий и других юридических лиц, студентов госвузов, военнослужащих, безработных и иных граждан, а также обеспечить всю эту разношерстную компанию и саму кампанию (как перманентный процесс сева — ухода — уборки — хранения — поедания...) автомобильным транспортом самих «юридических лиц».



Понимать надо так, что на селе работать некому и нечем. Скоро, очевидно, среди горожан будут формироваться сельхозвойска по принципу казачьих: сотни, эскадроны, полки. Все на собственных лошадях, при своей амуниции и пиках (то есть вилах, граблях, косах). Впрочем, при Аракчееве существовали и более радикальные способы решения продовольственной проблемы. Мы имеем в виду военные поселения, приписанные к которым люди и военному делу учились, и коров доили.

Есть еще хорошо зарекомендовавший себя вариант с рекрутскими наборами. Можно, например, «привлекать» каждого десятого по жребию или иным способом сроком лет на 20-25. К тому же в запасе всегда есть самая радикальная модель. Когда горожан перестают кормить совсем, они безо всяких «указивок» выезжают на колхозные поля и убирают их со всем тщанием.

Однако вернемся к постановлению Совмина. В части госпредприятий, армии и госвузов оно ничем не отличается от тех, которые принимались еще при Машерове и в годы выполнения продовольственной программы.

Но «иные юридические лица» — это ведь относится и к негосударственным предприятиям. Представьте картинку: фирма-грузоперевозчик заключила контракт на транспортировку грузов «за бугор», а ей говорят, что под Пуховичами морковка под снег уходит. Можно, конечно, и не поехать, но ведь можно и не жить — дело свободного выбора.

Далее постановление предусматривает, что оплату за исполненные сельхозработы будут производить сами колхозы и совхозы. Но надо знать финансовое состояние этих монстров сельхозиндустрии. Они и колхозникам платят мало и нерегулярно. Поэтому «юридическим лицам» Совмин «рекомендует» выплачивать сельхозотходникам 60-75 процентов среднего заработка по основному месту работы. Скажете, абсурд. Нет, это только прелюдия! ■

СПЕЦСЛУЖБЫ

# НАВІНЫ пад каўпаком КДБ?

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

Ва ўсім свеце здараецца, што ў спецслужбаў могуць узнікнуць прэтэнзіі да журналістаў, а ў журналістаў — да спецслужбаў. Напрыклад, журналісты надрукавалі нейкі сакрэтны дакумент, змест якога лічаць антыканстытуцыйным і падазраюць, што гэты дакумент выйшаў з нетраў спецслужбы. Прэса задае пытанне, якое дачыненне да гэтага дакумента мае спецслужба? Пытанне слушнае, бо любое сакрэтнае ведамства павінна дзейнічаць у межах Канстытуцыі, яно ўтрымліваецца на грошы падаткаплацельшчыкаў і нясе публічную адказнасць за кожны свой крок. Як у цывілізаваным свеце вядуць сябе спецслужбы ў такой сітуацыі? Варта чакаць, што сам кіраўнік спецслужбы наладзіць прэс-канферэнцыю, каб развеяць падазрэнні журналістаў. Але ўявім іншую сітуацыю. Што, калі замест абвяржэння надрукаваных звестак спецслужба ўзбудзіць крымінальную справу — з мэтай даведацца, хто выдаў дзяржаўны сакрэт? Такі крок пацвердзіць ўсе журналісцкія падазрэнні! У вачах грамадства спецслужба сябе канчаткова дыскрэдытуе, і варта будзе ўзбудзіць супраць яе кіраўніцтва крымінальную справу.

Гісторыя, якая разгортваецца ў апошні час вакол НАВІНАЎ, як раз дае прыклад аднаго з апісаных варыянтаў.

## Сакрэтны «план»

19 красавіка ў нашай газеце быў надрукаваны артыкул «Сакрэтны план супраць апазіцыі?», у якім цытаваўся адзін дакумент. Гэтая папера была падкінутая ў рэдакцыю без грыфа і подпісаў, але змест яе нас вельмі зацікавіў. Пералічваліся захады, якія прадпісана зрабіць дзяржаўным установам, каб не дапусціць праўдзення прэзідэнцкіх выбараў 16 траўня. Сярод «нявінных» крокаў, як загад мінсувязі кантраляваць выдзяленне апазіцыйным штаб-кватэрам дадатковых тэлефонных нумароў, былі ў гэтым «плане» і яўна антыканстытуцыйныя «прапановы». Напрыклад, КДБ даручалася «выкарыстоўваць дадзеную сітуацыю для разлажэння і кампраметацыі» апазіцыі. Мы засумняваліся, што такое(!) у нашай краіне(!) магчыма, і таму звярнуліся па каментар у прэс-службу КДБ і Савет бяспекі. Спадары Фёдар Котаў і Анатоль Тозік з гэтых ведамстваў адказалі, што ўпершыню чуюць пра такі дакумент і не выключаюць, што ён «фальшыўка». НАВІНЫ таксама гэтага не выключалі і таму працытавалі паважаных каментатараў. Больш таго, па просьбе палкоўніка Котава, яны самі перадалі гэты дакумент у КДБ. Канешне, пасля таго, як надрукавалі вытрымкі з яго.

## Спачатку адвакат, потым «стулья»

Далей мы чакалі, што чэкісты, а магчыма, і ўсе іншыя, хто згадваўся ў «сакрэтным плане», заявяць публічна, што яны не маюць ніякага дачынення да гэтай «фальшыўкі». Прычым на фактах нам дакажуць, што нічым такім дрэнным яны не займаліся і займацца не збіраюцца. Ці правёў хто-небудзь прэс-канферэнцыю, ці зрабіў гнеўную заяву, можа, абверг праз друк «жудасны паклёп»? Замест гэтага на мінулым тыдні ў НАВІНЫ прыносяць позву, у якой мне, Алегу Груздзіловічу (аўтару публікацыі), прадпісваецца з'явіцца ў якасці сведкі да следчага КДБ Г.Гнядзько. Па якой справе мяне выклікаюць — у паперцы не напісана, затое напісана аб крымінальнай адказнасці за няяўку.

Што робіць законапаслухмяны грамадзянін, якога выклікаюць на допыт? Хаваецца? Не. Ён збіраецца да следчага, але напярэдадні не забываецца зазірнуць у Канстытуцыю, дзе напісана, што ён *«мае права на юрыдычную дапамогу, у тым ліку права карыстацца ў любы момант дапамогай адвакатаў і іншых сваіх прадстаўнікоў у судзе, іншых дзяржаўных органах, органах мясцовага кіравання, на прадпрыемствах і ва ўстановах, арганізацыях, грамадскіх аб'яднаннях і ў зносінах з службовымі асобамі і грамадзянамі. Супрацьдзеянне аказанню прававой дапамогі забараняецца»*. Прачытаўшы гэты артыкул, я зразумеў, што ў мяне няма ніякіх падставаў хвалявацца — няўжо ў КДБ будуць парушаць мае гарантаваныя Канстытуцыяй правы? Каб не цягнуць час, не ствараць замінак у следчым працэсе, я адразу пайшоў на допыт разам са сваім юрыдычным кансультантам Гары Паганяйлам. «Шчыра гатовы расказаць вам усё, што ведаю, але, згодна з Канстытуцыяй, прашу пачаць допыт у прысутнасці адваката Паганяйлы», — заявіў я следчаму. Вы думаеце, спадар Гнядзько мяне падтрымаў у маім законным патрабаванні? На дзіва, не. У выніку па ягонай ініцыятыве наша першая размова (у панядзелак) не адбылася, а потым безвынікова прайшла і другая, у сераду. На гэтае «спатканне» мяне прывезлі ўжо пад прымусам, на «рафіку», у суправаджэнні сямі супрацоўнікаў КДБ.

## Гладка было на паперы...

Дык ці сапраўды НАВІНЫ аказаліся пад каўпаком у КДБ? У мяне няма падставаў сцвярджаць гэта на ўсе сто. Можна толькі здагадвацца, што гэта за крымінальная справа, па якой мяне выклікалі ў КДБ у якасці сведкі. Не выключаю, што гэта менавіта справа па факце знікнення сакрэтнага дакумента аб процідзеянні апазіцыі, хоць магчымыя і іншыя варыянты. Але з іншага боку, што яшчэ, калі не гэта? Здаецца, нікога не рабаваў, крэдытаў не браў, на выбары ў мясцовыя саветы вось не паспеў схадзіць, але хіба за гэта ўжо караюць? Між тым, падставаў разважаць пра залішнюю ўвагу КДБ да нашай газеты хапае: мы «апазіцыйныя», з вышэйшай трыбуны нас абазвалі «нячэснымі», ужо не адзін карэспандэнт з НАВІНАЎ быў выкліканы на допыты ў КДБ, у тым ліку і ў апошні час.

Адно незразумела: чаму і з другой спробы, пасля пяці гадзінаў цытавання Канстытуцыі, супрацоўнікі КДБ так і не далі мне скарыстацца простым правам — паслугамі адваката? Навошта тады Канстытуцыя, калі яе не шануюць у дзяржаўнай установе? ■

МНЕНИЕ СТРАНЫ

**Мы продолжаем публикацию результатов социологических исследований, которые проводит стратегический партнер нашей газеты — лаборатория «НОВАК», ведущая социологическая служба страны. Сотни сотрудников этой лаборатории каждый месяц встречаются с тысячами белорусских граждан, чтобы узнать их взгляд на самые важные проблемы жизни. Из ответов каждого отдельного человека формируется мнение страны, с которым наша газета будет и впредь знакомить своих читателей.**

# КОМУ ИЗ ПОЛИТИКОВ ВЫ ДОВЕРЯЕТЕ?




Белорусские политологи, обозревая рейтинги популярности политических деятелей, часто сетуют на то, что уровень популярности президента неизменно остается высоким. Навряд ли подобное утверждение соответствует действительности. Если сравнивать рейтинг Лукашенко с представителями оппозиции, то контраст действительно разителен. Если же сравнивать показатели белорусского президента с показателями его коллег из Литвы или Польши, то позиции Лукашенко можно рассматривать как катастрофические. Рейтинг литовского президента Валдаса Адамкуса колеблется в промежутке от 65 до 75%, а рейтинг поляка Александра Квасьневского практически не опускается ниже 70 процентов. Можно сравнить индекс популярности Александра Лукашенко и с рейтингом Билла Клинтона: когда показатель народного доверия американскому президенту (во время «левинского» кризиса) опустился ниже шестидесятипроцентной отметки, это рассматривалось как национальная катастрофа и как серьезный повод для смены лидера.

Разительное же отличие рейтингов Лукашенко и представителей оппозиции можно объяснить тем, что последние имеют доступ лишь к независимым печатным изданиям, а массовые радио и телевидение им для разъяснения своих позиций недоступны. ■

